# ПЕСНЯ
## іспанскіх дзяцей
## пра ЛЕНІНА

Слухай, аб чым нашы дзеці
Ранкам, пры стрэчы, пяюць:
„Ленін найлепшы на свеце—
Роўных няма яму!

Проста адзеты, з другімі
Простым ты быў, як свой,
Хай-жа грыміць тваё імя—
Ленін—над цэлай зямлёй!

Студзень. Мароз такі едкі,
Ціша ў лагчыне між гор.
Ленін прышоў да нас з кветкай,
Ленін зімою памёр".

Кулі вайны грамадзянскай
Свішчуць і ў сэрца б'юць,
Дзеці зямлі іспанскай
Ранкам, пры стрэчы, пяюць:

„Дай, красавік, нам з саду
Ружаў і свежых траў!
Студзень—не наша радасць,—
Леніна ён забраў".

Чорнае, чорнае поле,
Коннікі ціха стаяць.
Дзеці пра лепшую долю
Мараць, гавораць і сняць:

„Студзень—не наша радасць,—
Леніна ў нас ён забраў...
Дай, красавік, нам з саду
Ружаў чырвоных і траў!

*Пераклад Ан. АСТРЭЙКІ*



*На вокладцы малюнак мастака А. ШАХРАЯ*



*ІЛЬЯ НІКАЛАЕВІЧ УЛЬЯНАЎ*
*(Бацька В. І. ЛЕНІНА)*



*МАРЫЯ АЛЕКСАНДРАЎНА УЛЬЯНАВА*
*(Маці В. І. ЛЕНІНА)*

# З школьнага жыцця В. І. Леніна



*(Па ўспамінах А. І. Ульянавай-Елізаравай)*

Сям'я Ульянавых жыла ў Сімбірску. Дзеці вучыліся ў гімназіі.

Самы любімы дзень дзяцей была субота, таму што заўтра нядзеля, а ў нядзелю гімназія закрыта.

За абедам дзеці ўспаміналі пра гімназію. Апавядалі пра настаўніка Чугунова. Ён добры, але толькі стары, і дрэнна чуе. Калі ён пытаецца з латыні: „Які склон?“ вучні яго падманваюць і адказваюць: „Іцельны“. Настаўнік пытаецца: „Які?“ А вучань зноў кажа: „Іцельны“. Тады настаўнік думае, што гэта ён недачуў і кажа: „Так, так, тварыцельны“. Або: „Правільна, вініцельны“.

Адзін раз дзеці Ульянавых прыдумалі выпускаць па суботах журнал і назваць яго „Суботнік“.

Валодзя пісаў у журнале доўгія апавяданні. Ён падпісваўся: „Кубышкін“, таму што ён быў невысокага росту. Оля была шустрая, бойкая. Яе часамі звалі малпачкай. Таму яна ў журнале падпісвалася: „Обезьянков“. Але толькі Олі было ўсяго восем год, яна пісала з памылкамі, косымі літарамі, карандашом: „Абезянков“.

Саша прыдумліваў шарады і загадкі. Ён называўся ў журнале „Вральман“, але толькі яму гэта імя не падыходзіла, бо ён не любіў лгаць.

У суботу, увечары, усе збіраліся ў сталовай чытаць журнал. Бацька і маці садзіліся слухаць. Іншы раз у маткі на руках была самая малодшая—маленькая Маша.

Валодзю і Олі больш за ўсё падабаліся малюнкі і жарты.

Адзін раз у журнале быў намаляваны Валодзя: як ён прышоў у гімназію і захацеў пачаставаць таварыша піражком і як таварыш знарок з'еў усе піражкі, а Валодзя



ВЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ З СЯСТРОЙ ОЛЬГАЙ ІЛЬІНІЧНАЙ У 1874 Г.

астаўся без снедання: стаіць здзіўлены, у руках пусты пакет.

На другім малюнку была нарысавана Оля з разяўленым ротам, на шчоках—вялікія, як шарыкі, слёзы. Пад малюнкам было напісана: „Оля, пасылаемая спаць“.

Оля не любіла класціся спаць. Яна казала матцы: „Я зусім ніколі не сплю, я толькі ляжу з заплюшчанымі вачыма“.

Ані Ульянавай было ў той час пятнаццаць год. Яна пісала ў журнале важныя артыкулы і вершы. У артыкулах яна пісала так: „А што-ж маўчыць наш паважаны Вральман? Што-ж абмяжоўваецца жартамі і загадкамі?“

Адзін раз Аня напісала артыкул і ў ім пасмяялася з Валодзінага апавядання. Маці слухала і баялася: ці не пакрыўдзіцца Валодзя? Але Валодзя не пакрыўдзіўся. Ён крыху нахіліў галаву, каб лепш расслухаць і нічога не прапусціць з Анінага артыкула. Чаму нядобрае апавяданне? Як трэба лепш пісаць апавяданні?

Маці доўга хавала нумары журнала, але толькі ніводзін нумар не захаваўся. Вельмі шмат прыходзілася сям'і Ульянавых пераязджаць з месца на месца і вельмі часта з'яўлялася ў сям'ю Ульянавых паліцыя і рабіла вобыскі.

У Валодзі быў таварыш Коля. Ён вучыўся ў царкоўнай школе.

Коля гаварыў сумна: „З арыфметыкі нічога не разумею. Пайду да Валодзі, ён усё ведае. Другія хлапчукіківалі галавой: „засмяе“.

Але Валодзя не смяяўся з таварышоў. Бралі задачнік, рашалі задачу, Валодзя тлумачыў правілы.

І вось яшчэ не скончылася першая чвэрць, а ўжо Валодзя расказваў бацьку і радаваўся:

— Коля навучыўся рашаць задачы!

Іншы раз раніцай Валодзя ішоў на поўгадзіны раней у гімназію, каб памагчы таварышам перад пачаткам урокаў.

Ён заходзіў у клас. На ім быў чысценькі каўнерык, валасы былі гладка прычэсаны.

Дзяжурны ў класе навешваў карту Расійскай імперыі і карту Еўропы.

Гімназісты крычалі:

— Ульянаў прышоў!

— Пеможы перакласці з грэцкай мовы!

— Растлумач мне трайное правіла!

Хто-небудзь махаў палачкай каля геаграфічнай карты і прасіў:

— Мне першаму! Пакажы Апенінскі поўвостраў, пакажы Сяродземнае мора!

На ўроках Валодзя не любіў мітусіцца. Ён не падскакваў на парце, ён не спяшаўся падымаць руку. Настаўнік выклікаў:

— Ульянаў!

Тады ён уставаў, невялікі, у суконнай куртцы. На папружцы, на металічнай пражцы, былі відаць дзве літары: „М.Г.“—мужчынская гімназія. Ён адказваў настаўніку на пытанні. Ён не спяшаўся; нічога не прапускаў; ён усё памятаў.



ВЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ У ГОД ПАСТУПЛЕННЯ У ГІМНАЗІЮ

У тры гадзіны дня Валодзя прыходзіў дамоў з гімназіі. Ён шагаў каля бацькавага габінета, шустры, у шэрым гімназічным шынялі; валасы тарчалі ў яго з-пад шапкі, крыху рыжаватыя. Ён спяшаўся наверх у свой пакой. На-хаду ён выгукваў бацьку, у адчыненыя дзверы, свае адзнакі:

— З латыні—пяць! З геаграфіі—пяць! Па рускаму—пяць! Па гісторыі—пяць!

Бацька і маці пераглядваліся і ўсміхаліся. Прабег у доўгім шынялі, толькі мільгануўся, вясёлы, жвавы. Часамі бацька гаварыў, гладзячы пасівелую пасму валос каля лба:

— Баюся, яму навука вельмі лёгка даецца! Баюся, ён, бадай, не выпрацуе ў сабе работаздольнасці!

Але адзін раз быў такі выпадак. Аня праходзіла каля зальца. У зальцы Оля іграла на раялі і развучвала цяжкае месца. Яна іграла ўсё тое-ж яшчэ раз, спачатку, каб маленькі гук быў чысты, як шклечка. І раптам Аня ўбачыла: Валодзя стаіць каля дзвярэй, у руках у яго кніга,—крыху нахіліў галаву на бок і слухае. Ён паглядзеў на Аню. Потым паказаў на дзверы. За дзвярыма Оля іграла ўсё тое-ж, усё тое-ж. Ён сказаў:

— Вось хто ўмее працаваць! Вось каму можна пазайздросціць!

І памалу пайшоў з кнігай наверх, чытаць, рыхтаваць урокі, вучыцца.

А. ГРЫНБЕРГ



АЛЕКСАНДР СЕРГЕЕВІЧ ПУШКІН

(З партрэта работы мастака Трапініна)

# ЖЫЦЦЁ
# А. С. ПУШКІНА

## ДЗЯЦІНСТВА

Александр Сергеевіч Пушкін радзіўся ў Маскве ў 1799 г. 6 чэрвеня (26 мая па старому стылю). Бацька яго , Сергей Львовіч, быў багаты памешчык. Маці, Надзежда Осіпаўна, была патомкам абісінскага князька негра Ганібала. Сын гэтага князька Ібрагім быў узяты туркамі ў палон, а потым падараваны рускаму цару Петру Вялікаму.

Ібрагім аказаўся вельмі здольным. Ён паступіў на ваенную службу, даслужыўся да генерала і атрымаў ад цара ўзнагароду—два маёнткі. Надзежда Осіпаўна даводзілася Ібрагіму ўнучкай. Вось чаму ў Пушкіна захавалася шмат рысаў яго абісінскага прадзеда: курчавыя валасы, смуглявы твар.

Ні маці, ні бацька Пушкіна не цікавіліся жыццём дзяцей. Маленькі Пушкін не меў ласкі ад бацькоў. Але затое ён знайшоў сабе другую ласкавую маці ў асобе сваёй нянькі Арыны Радзіонаўны, прыгоннай бабулі Пушкіных. Пушкін усё жыццё не забываў сваёй няні, любіў і паважаў яе. Няграматная няня вучыла маленькага Пушкіна рускай мове, апавядала яму цікавыя прыгожыя народныя казкі і спявала песні.

У сям'і Пушкіных хатняй мовай была мова французская, як і ва ўсіх багатых сем'ях таго часу. Багатыя паны лічылі рускую мову годнай толькі для „подлых людзей“,—так называлі яны прыгонных.

Вучыўся Пушкін неахвотна, але вельмі рана стаў захапляцца чытаннем кніг. У бацькі была багатая бібліятэка з французскіх кніг. Пушкін крадком залазіў у бібліятэку і з захапленнем чытаў усё, што траплялася пад руку. Чытаў ён у той час па-французску лепш чым па-руску. Начытаўшыся кніг, ён з гадоў васьмі і сам пачаў складаць вершы.

## ПУШКІН У ЛІЦЭІ

У 1811 годзе Пушкін паступіў вучыцца ў Царскасельскі ліцэй: так называлася школа, у якой маглі вучыцца дзеці толькі самых багатых дваран—памешчыкаў, князёў, графоў. У ліцэі Пушкін шмат чытае і піша; сярод школьных паэтаў ён хутка выходзіць на першае месца.

У 1815 годзе ў ліцэі адбываўся экзамен для вучняў малодшых класаў. На гэтым экзамене сярод ганаровых гасцей быў стары паэт Дзержавін, адзін з лепшых рускіх паэтаў таго часу. На экзамене Пушкін прачытаў свой верш „Воспоминания в Царском селе“. Верш усім вельмі спадабаўся. Дзержавін са слязамі на вачах кінуўся цалаваць



*А. С. Пушкін у 14 год*

Пушкіна. Пушкін засароміўся і ўцёк, а Дзержавін усклікнуў:

— Вось хто заменіць Дзержавіна!

Хутка на Пушкіна сталі зварачаць увагу і ўсе другія вядомыя тагочасныя пісьменнікі — Карамзін, Жукоўскі, Бацюшкаў і інш.

У ліцэі Пушкін пазнаёміўся з афіцэрамі царскага палка, які стаяў у Царскім сяле. Некаторыя афіцэры непрыхільна адносіліся да цара і яго парадкаў. Яны лічылі, што ўлада цара павінна быць абмежавана, што пара і ў Расіі па прыкладу заходняй Еўропы скасаваць прыгоннае права, аслабаніць сялян ад панскай няволі. Такія людзі гуртаваліся ў тайныя таварыствы і праводзілі сваю работу. Потым гэтых людзей сталі называць дзекабрыстамі па імені месяца дзекабра (снежня), калі яны адкрыта выступілі супроць цара (14 снежня 1825 года).

# ПУШКІН У ССЫЛЦЫ

Блізкае сяброўства з перадавымі людзьмі таго часу прынесла Пушкіну вялікую карысць. Навука ў будучых дзекабрыстаў зрабіла вялікі ўплыў на свабодалюбівыя мыслі маладога Пушкіна. Яго вострае пяро стала калюча пячы цара і царскіх прыдворных. Падобныя вершы Пушкін друкаваць не мог, але яны былі шырока вядомы ў спісках. З часам яны дайшлі і да цара Аляксандра І. Цар разззлаваўся і загадаў саслаць Пушкіна ў Сібір або пасадзіць у турму ў Салавецкі манастыр. Але Пушкін к гэтаму часу ўжо быў вядомым паэтам. Ён надрукаваў шмат выдатных вершаў і паэму „Руслан і Людмила“. Сябры Пушкіна захваляваліся. Блізкія да цара пісьменнікі Карамзін і Жукоўскі дабіліся таго, што Пушкіна заместа Сібіры выслалі ў 1820 г. на поўдзень.

Аднак і ў ссылцы Пушкін не супакоіўся. Ён па-ранейшаму не прызнаваў начальства, высмейваў у вершах цара, высокіх чыноў-

нікаў, памешчыкаў, папоў і ўсіх „святых“. Разам з гэтым ён піша выдатныя паэмы „Кавказский пленник“ і „Цыганы“, у якіх усхваляе вольнае жыццё. Усе лепшыя людзі ўважліва прыслухоўваюцца да твораў Пушкіна. Одэскі генерал-губернатар Варанцоў пачынае баяцца Пушкіна. Ён просіць цара, каб забралі ад яго небяспечнага паэта. Па загаду цара Пушкіна высылаюць у глухое сяло Міхайлаўскае, у маёнтак яго бацькі, без права выезда.

У сяле Міхайлаўскім Пушкін пражыў два гады. Ён па-ранейшаму шмат піша, працуе над раманам „Евгений Онегин“. У вольны час слухае казкі няні Арыны Радзіонаўны, ходзіць да сялян і праводзіць з імі гутаркі, запісвае ад старцоў песні. Ён адзяе чырвоную рубашку, саламяны капялюш, бярэ ў рукі жалезную палку і так ходзіць па базарах, па вёсках. Для ўсіх суседніх памешчыкаў Пушкін здаваўся дзіваком. Затое з такімі памешчыкамі Пушкін не дружыў і зусім не паважаў іх.

У канцы 1825 г. Пушкін атрымаў трывожныя весткі аб падаўленні паўстання дзекабрыстаў. Пяцерых дзекабрыстаў павесілі, больш сотні выслалі ў Сібір на катаргу. Сярод дзекабрыстаў было шмат знаёмых і сяброў Пушкіна. Гэта вестка вельмі засмуціла Пушкіна. Праз некалькі год ён піша свой вядомы верш „У глыбіні сібірскіх руд“, у якім спачувае дзекабрыстам і верыць у лепшае будучае Расіі.

Новы цар Нікалай І парашыў зрабіць з Пушкіна прыдворнага паэта. Пушкін быў прызнаны ўсімі як найлепшы рускі паэт і цар спадзяваўся зрабіць з Пушкіна блізкага сабе паэта.



*Пушкін у с. Міхайлаўскім (злева няня Арына Радзіонаўна, справа—адзін з самых блізкіх сяброў паэта дзекабрыст Пушчын).*
*З карціны мастака Ге.*

Увосень 1826 г. у сяло Міхайлаўскае прымчаўся царскі пасланец, схапіў Пушкіна і павёз у Маскву.

Цар сустрэў Пушкіна ласкава. Між імі адбылася доўгая размова. Цар запытаўся:

— Пушкін, ці прыняў-бы ты ўдзел у паўстанні дзекабрыстаў, каб быў у гэты час у Пецербургу?

Пушкін смела адказаў:

— Абавязкова, гасудар. Усе мае сябры былі там і я не мог не быць.

Такі адказ паказаў цару, што Пушкіна ні чым не возьмеш. І сапраўды, ён і пасля царскай „міласці“ мала змяніўся, усяго толькі стаў больш асцярожным. Аднак і цяпер многіх сваіх твораў Пушкін не мог надрукаваць. За ім сачылі не толькі жандары, але і сам цар. Ён загадаў, каб Пушкін усе свае творы даваў яму на прагляд.

## ДУЭЛЬ І СМЕРЦЬ ПАЭТА

Цяжка было жыць і тварыць вялікаму паэту ў такіх умовах. І яшчэ цяжэй было выражаць свае свабодалюбівыя думкі. Прыходзілася пісаць так, каб тупагаловы цар і яго чыноўнікі не зразумелі сапраўдных думак, выказаных у творы. Так, напрыклад, Пушкін піша „Казку пра залатога пеўніка“ Здаецца, простая, забаўная казка. Аднак у ёй Пушкін выводзіць рысы ненавіснага



НА ДУЭЛІ.

яму цара Нікалая I і яго папярэдніка Аляксандра I. У другіх творах намёкі на цара і царскіх чыноўнікаў былі больш яснымі,—такія творы не маглі трапіць у друк, а пашыраліся толькі ў спісках. Нават такая рэч, як „Казка пра папа“ была надрукавана задоўга пасля смерці Пушкіна і то са значнымі зменамі: замест „поп“ надрукавана было „купец Асталоп“.



*У сваіх сшытках Пушкін поруч з вершамі часта што-небудзь рысаваў: твар чалавека, прыгожую літару і г. д. Вось як ён нарысаваў самога сябе.*

Усе гэтыя недазволеныя вершы Пушкіна не маглі не быць вядомы прыдворным і самому цару. Яны сталі пашыраць пра Пушкіна розныя плёткі, хлусню. Пушкін не мог гэтага пераносіць, ён не мог дазволіць чарніць сябе.

І вось у студзені 1837 г. Пушкін выклікае на дуэль аднаго з сваіх ворагаў Дантэса. Дуэль адбылася 27 студзеня (па старому стылю). Пушкін быў цяжка паранен і праз два дні памёр у страшэнных муках.

Так загінуў найвялікшы рускі паэт А. С. Пушкін. Аднак тое, што Пушкін напісаў, вечна і неўміруча. Свабодны народ СССР любіць свайго вялікага паэта, чытае яго творы, шануе яго памяць. Збылося тое, аб чым пісаў Пушкін:

**Слух обо мне пройдет по всей Руси великой,**
**И назовет меня всяк сущий в ней язык:**
**И гордый внук славян и фин, и ныне дикой**
**Тунгус, и друг степей калмык.**

Сёлета ў лютым месяцы спаўняецца сто год з дня смерці Пушкіна, „сонца рускай паэзіі“, як назваў яго Гогаль. Пралетарская дзяржава і ўсе народы нашага Саюза дастойна сустрэнуць і правядуць гэты юбілей,



# КАЗКА ПРА ЗАЛАТОГА ПЕЎНІКА

*А. С. ПУШКІН*

Недзе ў краі трыдзевятым,
Дзесьці ў царстве трыдзесятым
Жыў быў слаўны цар Дадон.
Змоладу быў грозны ён,
І суседзяў то, бывала,
Крыўдзіў войнамі нямала,
А пад старасць пажадаў
Адпачыць ад ратных спраў
Ды пажыць сабе спакойна;
Тут суседзі на Дадона
Сталі смела нападаць,
Яго царства разбураць.
Каб дзяржаву і уладу
Бараніць ад тых нападаў,
Ён павінен быў трымаць
Войск нязлічаную раць.
Ваяводы не драмалі,
Ды ніяк не паспявалі:
Сочыш там, а вораг—тут,—
Не дагледзіш кожны кут.
Выб'юць тут—ліхія госці
Валяць з мора—і ад злосці
Часам плакаў цар Дадон,
Часам траціў нават сон.
Што й жыццё ў такой трывозе!
І вось з просьбай аб падмозе
Цар Дадон да мудраца—
Зоразнаўца і скапца—
Шле ганца свайго з паклонам.
Вось мудрэц перад Дадонам
Стаў, і выняў ён з мяшка
Залатога певунка.
„Пасадзі яго на спіцы,—
Кажа ён,—супроць святліцы,
І пабачыш, пеўнік мой
Будзе верны сторож твой:
Як нідзе не будзе войнаў,
Будзе ён сядзець спакойна;
А як толькі дзе-нібудзь
Твае ворагі пачнуць
Пагражаць табе вайною
Ці яшчэ якой бядою,—
Дык мой пеўнік залаты
Ўміг павернецца туды,
Зварухнецца, страпянецца,
На трывогу адгукнецца".
Рады цар быў бесканца,
Шчыра дзякуе скапца:
„За такую вось паслугу,—
Кажа цар яму, як другу,—
Волю выканаць тваю
Я гатоў, як і сваю".

Певунок з высокай спіцы
Вартаваць пачаў граніцы—
Ледзь задумаў хто вайну,
Верны сторож як са сну
Страпянецца над сталіцай,
У той бок глядзіць са спіцы
І крычыць: кіры-ку-ку!
Царствуй, лёгшы на баку!"
І суседзі тут, вядома,
Выступаць супроць Дадона
Перасталі з гэтых пор,—
Даў усім Дадон адпор.
Год, другі жывуць без войнаў,
Певунок сядзіць спакойна.



Вось аднойчы цар Дадон
Чуе крык і шум праз сон:
„Цар ты наш! Айцец народа!
Ледзь не плача ваявода,—
Ой, прачніся, цар, устань!“
„Хто такі ў такую рань?—
Цар устаў і пазяхае,—
Га? Хто там? бяда якая?
Ваявода адказаў:
„Зноў наш пеўнік закрычаў,
Страх і шум ва ўсёй сталіцы“.
Цар к вакенцу—аж на спіцы
Бачыць слаўны певунок,
Адвярнуўшыся у бок
Да усходу, раскрычаўся.
Цар Дадон захваляваўся
І гукае: „Гэй, народ,
У паход жывей на ўсход!“
І сабраўшыся ў хвіліну,
У варожую краіну
Яго войска дружна йдзе,
Сын старэйшы раць вядзе.
Певунок угаманіўся,
Шум заціх, і цар забыўся.

Вось праходзіць восем дзён,
І не ведае Дадон,
Што там з войскам за здарэнне,
Бо няма паведамлення.
Пеўнік зноў пачаў крычаць,
Кліча цар другую раць,
І ў варожую краіну
Пасылае з меншым сынам.
Пеўнік тут-жа і заціх.
Вестак зноў няма ад іх.
Восем дзён ізноў праходзіць;
Людзі ў страху дні праводзяць;
Пеўнік зноў пачаў крычаць,
Цар склікае трэццю раць
І вядзе яе паходам
Сам к далёкаму усходу.

Войска крычыць дзень за днём.
Аглядаецца кругом—
Ні пабоішча, ні стана,
Ні магільнага кургана
Не знаходзіць цар Дадон.
„Што за дзіва?“—кажа ён.
Восьмы дзень ужо праходзіць,
Войска ў горы цар прыводзіць,
І паміж высокіх гор
Бачыць шоўкавы шацёр.
Цішыня стаіць навокал,
А ў цясніне нешырокай
Раць пабітая ляжыць.
Цар Дадон к шатру бяжыць.
Раптам крыкнуў ён ад жаху:
Перад ім сыны, як плахі,
Без шаломаў і без лат
На зямлі ляжаць у рад,
Меч уткнуўшы друг у друга.
Бродзяць коні іх між лугу,
Па ўтоптанай траве,
Па крывавай мураве.
Цар завыў: „Ах, дзеці, дзеці!
Гора мне без вас на свеце!
Хто-ж вас звёў на гэткі бой?
Хто-ж быў гэтаму віной?“
Ўсе завылі за Дадонам,
Застагнала цяжкім стогнам
Глыб далін і сэрца гор.
Раптам бачыць ён—шацёр



Адчыніўся й маладзіца,
Шамаханская царыца
У адзенні дарагім
Ціха стала перад ім.
Зачарованы красою,
Цар замоўкнуў перад ёю
І забыўся пра сыноў—
Пра любімых сакалоў.
А яна перад Дадонам
Усміхнулася, з паклонам
За руку яго ўзяла
І ў шацёр свой павяла.
Там за стол яго саджала,
Рознай стравай частавала,
Ды паклала яго спаць—
Мірным сном адпачываць
А пасля так тыдзень роўна
Ў паслушэнстве безумоўным
Бяляваў там цар Дадон.
Ні аб чым не думаў ён.

Ды нарэшце ўсё-ж, вядома,
Ён адправіўся дадому
З сілай ратнаю сваёй
І царыцай маладой.
Перад ім на ўсю краіну
Разбягаліся навіны.
Пад сталіцай ля варот
З шумам стрэў яго народ.
Ўсе бягуць за калясніцай,
За Дадонам і царыцай.
Іх вітае цар Дадон...
Раптам з боку бачыць ён
Ў сарачынскай шапцы белай,
Нібы лебедзь, пасівелы
Друг стаіць яго—скапец.
„А! здаровенек, айцец,—
Кажа цар,—як пажываеш?
Што мне, дружа, загадаеш?“
„Цар,—мудрэц яму сказаў,—
Разлічыцца я-б жадаў.
Памятаеш? за паслугу
Абяцаў калісь, як другу,
Волю першую маю
Ты выконваць, як сваю.

Прыгажуню-маладзіцу,
Шамаханскую царыцу
Ты аддай мне, як свой дар...“
„Што ты? што ты?—кажа цар.—
Ты напраўду, ці жартуеш?
Ну, адказвай-жа мне, чуеш?
Што ты ў голаву набраў?
Я, бясспрэчна, абяцаў,
Ды ўсяму-ж вось ёсць граніца
І нашто табе царыца?
Маеш розум ты, ці не?
Папрасі ты у мяне
Хоць казну, хоць чын баярскі,
Хоць каня са стайні царскай,
Хоць поўцарствам адплачу“...
„Не, нічога не хачу.
Падаруй мне маладзіцу,
Шамаханскую царыцу“,—
Адказаў яму мудрэц.
„Дык-жа знай, стары скапец,
Што не дам табе нічога!
Не грашы ты лепей богу!
Выбірайся мігам вон!“—
Крыкнуў грозна цар Дадон.
Тут скапец пачаў спрачацца,
Ды з царамі лепш не знацца.
Цар па лбу яго жазлом
Стукнуў; той упаў кулём.
Ды сканаў. Уся сталіца
Задрыжэла, а царыца
Калі стала рагатаць...
Грэх не страшны ёй, відаць.
Цар хоць вельмі хваляваўся,
Ёй пакорна усміхаўся.

Вось у горад едзе ён...
Раптам чуе лёгкі звон,
І ў вачах усёй сталіцы
Пеўнік пырх!—зляцеў са спіцы,
К калясніцы паляцеў
Ды цару на цемя сеў,
Дзеўбануў па цемі раз
І ўзляцеў... і ў той-жа час
З калясніцы ўпаў Дадон—
Толькі ахнуў—і дух вон,—
А царыца з воч прапала,
Нібы ў воду яна ўпала.
Казка лжэ, ды ў ёй намёк,
Шмат каму яна урок.

*Пераклад А. ЯКІМОВІЧА.*

**Рыс. А. ШАХРАЯ.**



# МЫ ЧЫТАЕМ, МЫ ЛЮБІМ ПУШКІНА



*Рыс. Вовы Мартусевіч (Менск, 45 школа)*

## ШТО Я ВЕДАЮ ПРА ПУШКІНА

*Я даведалася пра А. С. Пушкіна ў школе. Наша настаўніца расказала нам пра жыццё і творы Пушкіна.*

*Мне вельмі падабаецца няня Пушкіна Арына Радзіонаўна. Яна любіла Пушкіна, як свайго сына і апавядала яму цікавыя, прыгожыя казкі. Пушкін пасля напісаў гэтыя казкі вершам. Я з захапленнем чытала ўсе казкі Пушкіна. Асабліва спадабалася мне „Казка аб мёртвай царэўне“.*

**Менск, 25 школа, 2 клас. Рудзіна Кіма**

## Я ЧЫТАЎ УСЕ КАЗКІ

*Я ведаю, што Пушкін выдатны, вялікі паэт. Я прачытаў усе казкі Пушкіна. З гэтых казак мне больш за ўсё спадабалася „Казка пра папа і пра парабка яго Балду“, асабліва тое месца, дзе Балда дае папу пстрычкі. У школе на ёлцы мы пакажам урывак з „Казкі аб мёртвай царэўне“.*

**Менск, 9 школа, 2 клас. Шахоцька Бора**



*Рыс. Шахоцька Боры*

## Я ШМАТ ЧЫТАЮ

*Мне 8 год. Вучуся я ў 25 Менскай школе, у першым класе. Я шмат чытаю. Прачытаў ужо ўсе казкі Чукоўскага, братоў Грым, Пушкіна, Горкага і шмат другіх.*

*З казак Пушкіна мне вельмі спадабалася „Казка пра рыбака і рыбку“. У гэтай казцы асабліва мне спадабалася залатая рыбка.*

**Рэм Водэйка**

## ЦІКАЎЛЮСЯ ТВОРАМІ ПУШКІНА

*Я чытала ўсе казкі Пушкіна і шмат яго вершаў. З казак мне больш за ўсё спадабалася „Казка аб мёртвай царэўне“, якую я прачытала два разы.*

*Хутка мы будзем святкаваць стагоддзе з дня смерці вялікага паэта Пушкіна. Я вельмі цікаўлюся яго творамі і да гэтага вялікага свята прачытаю яшчэ шмат казак і вершаў Пушкіна.*

**Менск, 25 школа, 1 клас. Рэня Яцэвіч**

## МНЕ ПАДАБАЕЦЦА ЗАЛАТАЯ РЫБКА

*Мне вельмі падабаецца „Казка пра рыбака і рыбку“. У гэтай казцы гаворыцца, якая была сярдзітая і сварлівая баба і якая была добрая рыбка. Гэтай сварлівай бабе ўсяго было мала. Калі дзед вярнуўся да сваёй бабы-дваранкі і сказаў, што цяпер ёй усяго хапае, дык яна яго ўдарыла па шчацэ і загадала выгнаць.*

*Вось якая была злосная баба, а залатая рыбка і дзед мне падабаюцца.*

**Менск, 45 школа, 2 клас. Рольбіна Іда**

## ВЕРШ ПРА НЯНЮ

У „Казцы пра папа і пра парабка яго Балду“ мне падабаецца той момант, калі Балда прыносіць папу аброк і поп хоча пазбавіцца ад расправы ды хаваецца за пападдзю.

Яшчэ мне спадабаўся верш пра няню „Зімні вечар“, асабліва гэтае месца:

*„Наша ветхая лачужка*
*И печальна и темна.*
*Что же ты, моя старушка,*
*Приумолкла у окна?*

*Или бури завываньем*
*Ты, мой друг, утомлена,*
*Или дремлешь под жужжаньем*
*Своего веретена?*

**Менск, 45 школа, 2 клас. Дворкіна Соня.**

## ВЕРШЫ
# А. С. ПУШКІНА

## Птушка

Рупліва на чужыне дбаю
Пра родны звычай даўніны:
На волю птушку выпускаю
У свята светлае вясны.

Я стаў даступны суцяшэнню;
За што на бога наракаць,
Калі хоць аднаму стварэнню
Я волю мог падараваць.

*Пераклад П. ГЛЕБКІ*

## Два вораны

Воран к ворану ляціць,
Воран ворану крычыць:
„Воран, дзе-б нам паабедаць,
Як-бы нам аб тым праведаць?“

Воран ворану ў адказ:
„Будзе ўміг абед для нас:
У чыстым полі пад ракітай
Багатыр ляжыць забіты“.

*Пераклад К. ШАВЕЛЯ*

## Вурдалак

*(З песень Заходніх славян)*

Баязлівы Ваня бедны
Позным вечарам дамоў,
Дрыжучы ад страху, бледны
Цераз могілкі ішоў.

Бедны Ваня ледзве дыша,
Па магілах ледзь паўзе.
Раптам чуе сярод цішы
Нехта костку тут грызе.

Ваня стаў і разглядае.
Божа! думае бядак,
Гэта, мусіць, абгрызае
Косці страшны вурдалак[1].

Гора! мала ў мяне сілы,
З'есць вупыр мяне ураз,
Калі сам зямлі з магілы
Я не з'ем у гэты час.

Што-ж? Заместа вурдалака
(Ваня з жалю аж прысеў)
На магіле тут сабака
Костку белую грызе.

*Пераклад А. Я.*

[1] Цёмныя несвядомыя людзі верылі, што мерцвякі вылазяць з магіл і ссуць кроў жывых людзей. Такіх мерцвякоў называюць вурдалакамі, вупырамі.

# Вязень

Сяджу я за кратамі вязнем гады.[1]
Узросшы ў няволі арол малады,
Мой сумны таварыш, махае крылом,
Крывавую ежу дзяўбе пад акном.

Дзяўбе і кідае, глядзіць у акно,
Нібы ён са мною задумаў адно;
Заве мяне зіркам і крыкам сваім
І вымавіць хоча: „Давай паляцім"!

Мы вольныя птахі; пара, брат, пара!
Туды, дзе за хмарай бялее гара,
Туды, дзе блакітнага мора прастор,
Туды, дзе гуляюць... арлы ды віхор!.."

*Пераклад П. ГЛЕБКІ*

# У глыбіні сібірскіх руд

У глыбіні сібірскіх руд
Хавайце гордую цярплівасць:
Не згіне праца вашых рук
І дум высокая імклівасць.

Няшчасцю верная сястра,
Надзея ў змрочным сутарэнні
Узбудзіць радасць і натхненне,
Настане светлая пара:

Да вас праз мур турмы глухой
Сяброўства й любасць прыдзе скора,
Як сёння ў катаржныя норы
Даходзіць голас вольны мой.

Цяжкія кандалы спадуць,
Астрогі рухнуць і свабода
Вас прыме радасна ля ўхода,
І меч браты вам аддадуць.[2]

*Пераклад П. ГЛЕБКІ.*

[1] Вязень—чалавек, які адбывае кару ў турме; краты—жалезныя пранты ў акне турмы.
[2] Верш прысвечаны дзекабрыстам, сасланым царом у Сібір на вечную катаргу. Пушкін спачуваў дзекабрыстам і верыў у свабоду.





А. С. ПУШКІН

# КАЗКА ПРА ПАПА І ПАРАБКА ЯГО БАЛДУ



Жыў-быў поп,
Талаконны лоб.
Пайшоў поп па базару
Паглядзець сякога-такога тавару.
Насустрач яму Балда шагае,
А куды—і сам не знае.
„Чаго, бацька, так рана падняўся,
Што купляць сабраўся?“
Поп яму ў адказ: „Патрэбен мне работнік:
Кухар, конюх і агароднік.
А дзе знайсці мне такога
Парабка не вельмі дарагога?“
Балда і кажа: „Буду служыць табе слаўна,
Шчыра і вельмі спраўна,
У год за тры пстрыкі табе ў лоб,
Есці-ж мне давай хоць параны боб“.
Задумаўся поп над умовай,
Над спакуслівай прапановай:
Розныя пстрычкі бываюць, нябось.
Ды паспадзяваўся на рускі авось.
Поп і кажа Балдзе: „Ладна.
Не будзе нам ободвым накладна.
Паслужы ў мяне да новага году,
Пакажы сваю шчырую работу“.
Жыве Балда ў папоўскім доме,
Спіць сабе на саломе,
Есць за чацвярых,
Працуе за семярых;
Да дня ўсё ў яго танцуе,
Палосу ўзарэ і забарануе.
У печы запаліць, што трэба купіць,
Яечка спячэ ды сам і аблупіць.
Пападзя хваліць Балду не с'ахвоціцца,
Папоўна толькі аб ім і клапоціцца.
Папёнак заве яго таткам;
Кашы наварыць, няньчыцца з дзіцяткам.
Толькі поп адзін Балдой не здаволен,
Не пахваліць Балду ніколі,
Аб расплаце задумаўся глыбока:
Час ідзе, а яна недалёка.
Поп не есць, не п'е, начамі не спіць:
Лоб у яго загадзя трашчыць.
Вось ён пападзі прызнаецца:
„Так і так: што рабіць застаецца?“
Розум у бабы здагадлівы,
На ўсякія хітрыкі панадлівы.

Пападзя кажа: „На гэту бяду
Я хутка спосаб знайду:
Загадай Балдзе работу не пад сілу,
А выканаць патрабуй. Гэтым, мой мілы,
Ты і лоб свой ад расправы пазбавіш
І Балду без расплаты адправіш.

Стала на сэрцы папа весялей,
Пачаў ён глядзець на Балду смялей.

Вось і крычыць ён Балдзе над вухам:
„Гэй, мой верны работнік, паслухай:
Калісьці плаціць згадзіліся чэрці
Мне аброк[1] да самай маёй смерці.

Лепшы-б мне і непатрэбен даход,
Ды за імі нядоімка трэці год.
Дык вось, як бобу свайго ты наясіся,
За спагнанне аброку бярыся".

Балда не спрачаўся, і скора
Пайшоў, сеў ля берагу мора;
Там ён стаў вяроўку круціць
Ды канец яе ў моры мачыць.

Тут з мора вылез стары бес:
„Чаго ты, Балда, да нас залез?"
„Ды вось вяроўкай хачу мора моршчыць,
Ды вас, праклятае племя, корчыць".
Бес стары не на жарты спужаўся.

[1] Падатак.

„Скажы, за што ты ўзлаваўся?"
„Як за што? Узлаваўся не нарокам:
Вы не плаціце папу аброку.
Вось ужо будзе нам пацеха,
А вам, сабакам, будзе не да смеху".
„Балдушка, пачакай ты моршчыць мора,
Аброк увесь атрымаеш ты скора.
Пастой, вышлю да цябе ўнука".
Балда думае: „Гэтага ашукаць не штука!"
Вынырнула падасланае чарцянё,
Замяўкала, як галоднае кацянё:
„Добры дзень, Балда-мужычок,
Які табе патрэбен аброк?
Пра аброк мы не чулі ніколі,
Не ведалі чэрці такой няволі.
Ну, так і быць—вазьмі, ды па ўгавору,
Па агульнаму нашаму прыгавору,
Каб не было з нас нікому гора:
Хто хутчэй абляціць вакол мора,
Той і возьме сабе поўны аброк,
Тым часам там падрыхтуюць мяшок".
Засмяяўся Балда хітравата:
„Што ты? Аб гэтым і думаць не варта?
Дзе табе бегчы са мною,
Са мною, з самім Балдою,
Гэткага паслалі супастата!
Пачакай вось майго меншага брата".
Пайшоў Балда ў бліжэйшы лясок,





Злавіў двух зайцоў, ды ў мяшок.
Да мора ізноў ён прыходзіць,
Чарцянё каля мора знаходзіць.
Трымае Балда за вушы аднаго зайку:
„Паскачы вось ты пад нашу балалайку,
Бо ты яшчэ маладзенькі,
Мяне перагнаць заслабенькі —
Гэта была-б толькі часу трата.
Абгані вось спярша майго брата.
Раз, два, тры! Паляцелі!“
Пусціліся, што духу мелі:
Чарцянё па беражку марскому,
А зайка ў лясок, дадому.
Вось мора вакол абляцеўшы,
Прыбегла чарцянё спацеўшы;
Язык высунула, задыхаецца,
Мокрае ўсё, лапкай выціраецца.
Думае: справу з Балдою зладзіць.
Зірк—а Балда браціка гладзіць
І прыгаварвае: „Брацік мой маленькі,
Змарыўся бедненькі! адпачні, даражэнькі“.
Чарцянё асалавела,
Хвост падагнула, зусім аспакайнела,
На браціка паглядвае бокам.
„Пачакай, кажа, схаджу па аброк вам“.
Пайшло да дзеда, кажа: „Бяда!
Перагнаў мяне меншы Балда!“
Стары бес стаў тут думаць думу.
А Балда нарабіў такога шуму,
Што ўсё мора ўсхадзілася,
Хвалямі ў скалы так і забілася.
Вылезла чарцянё: „Пастой, мужычок,
Вышлем табе ўвесь аброк.
Толькі слухай. Бачыш ты палку гэту?
Выберы сабе любую мэту.
Хто далей палку падкіне ўгору,
Таму і аброк—па ўгавору.
„Што? Збаяўся? Чаго-ж ты чакаеш?“
„Ды чакаю вунь хмарку з-пад гаю;
Закіну туды тваю палку,
Ды і пачну з вамі, чарцямі, перапалку“.

Кінулася чарцянё да дзеда ў спалоху
Расказваць пра Балдову перамогу,
А Балда над морам зноў шум падымае,
Ды чарцям вяроўкай пагражае.
Вылезла чарцянё: „Што ты шум падымаеш?
Будзе табе аброк, калі пажадаеш“...
„Не,—кажа яму Балда,—
Цяпер мая чарада.
Умовы я сам назначу,
Задам табе, чарцянё, задачу.



Паглядзім, што ў цябе за сіла.
Бачыш там сівая кабыла?
Кабылу падымі вось ты,
Ды нясі яе поўвярсты;
Данясеш кабылу, аброк будзе твой;
Не данясеш кабылы, ён будзе мой“.

Бедненькі бес
Пад кабылу падлез,
Паднатужыўся,

Паднапружыўся,
Прыўзняў кабылу, два шагі ступіў,
А на трэцім і носам зарыў.
А Балда яму: „Дурны ты бес,
З кім ты ў спрэчку палез?
Нават рукамі несці не мог,
А я, глядзі, панясу паміж ног“.

Сеў Балда на кабылку вярхом,
Ды вярсту праляцеў, толькі пыл слупом.
Чарцянё зноў да дзеда ў спалоху
Пайшло сказаць пра такую перамогу.
Чэрці сышліся ў гурток,
Няма рады—чэрці сабралі ўвесь аброк
Ды на Балду узвалілі мяшок.



Ідзе Балда, пакраквае,
А поп, убачыўшы яго, падскаквае,
За пападдзю хаваецца,
Ад страху хістаецца.

Балда яго тут адшукаў,
Аддаў аброк, платы дамагацца стаў.
Бедны поп
Падставіў лоб.

Ад першае пстрычкі ў лоб
Падскочыў да столі поп;
Ад другое пстрычкі ў лоб,
Астаўся без языка поп;
Ад трэцяй-жа пстрычкі ў лоб
І розум свой страціў поп.
А Балда прыгаварвае з расстаноўкай:
— Не ганяўся-б ты, поп, за дзяшоўкай.

*Пераклад А. ЯКІМОВІЧА*

**Рысункі К. ГЕДДА**






**А. С. ПУШКІН**

*(УРЫВАК З АПОВЕСЦІ „КАПІТАНСКАЯ ДАЧКА“).*

Я набліжаўся да месца майго прызначэння. Навакол мяне распасціраліся нудныя пустыні, перасечаныя ўзгоркамі і ўпадзінамі. Усё пакрыта было снегам. Сонца садзілася. Кібітка ехала па вузкай дарозе, або, дакладней, па сляду, пракладзеным сялянскімі саньмі. Раптам фурман стаў паглядваць у бок і нарэшце, зняўшы шапку, звярнуўся да мяне і сказаў:

— Барынь, ці не загадаеш вярнуцца?

— Гэта чаму?

— Час ненадзейны: вецер злёгку падымаецца; бачыш, як ён змятае парошу.

— Што-ж за бяда?

— А бачыш там што? (Фурман паказаў пугаю на ўсход).

— Я нічога не бачу, апроч белага стэпу і яснага неба.

— А вунь, вунь: гэта воблачка.

Я ўбачыў на самай справе на ўскрайку неба белае воблачка, якое палічыў быў спачатку за далёкі ўзгорачак. Фурман растлумачыў мне, што воблачка—прымета блізкага бурана.

Я чуў аб тамашніх мяцеліцах і ведаў, што цэлыя абозы бывалі імі засыпаны. Савельіч,[1] згаджаючыся з думкай фурмана, раіў вярнуцца. Але вецер здаваўся мне невялікай сілы; я паспадзяваўся дабрацца заўчасна да чарговай станцыі і загадаў ехаць хутчэй.

Фурман памчаўся; але ўсё паглядваў на ўсход. Коні беглі дружна. Вецер між тым час ад часу рабіўся мацнейшым. Воблачка ператварылася ў белую хмару, якая цяжка падымалася, расла і паступова закрывала неба. Пайшоў дробны снег і раптам паваліў



[1] Савельіч—слуга маладога памешчыка Грынёва, які едзе ў армію *(Заўвага рэд.)*

клочкамі. Вецер завыў; зрабілася мяцеліца. У адзін міг цёмнае неба змяшалася са снежным морам. Усё знікла.

— Ну, барынь,—закрычаў фурман,—бяда: буран!..

Я выглянуў з кібіткі: усё было цемень і віхор. Вецер выў з такой лютай выразнасцю, што здаваўся жывым, снег засыпаў мяне і Савельіча; коні ішлі ступою і хутка сталі.

— Што-ж ты не едзеш?—спытаў я фурмана з нецярплівасцю.

— Ды што ехаць?—адказваў ён, злазячы з передка.—Невядома і так куды заехалі: дарогі няма і цемра кругом.

Я пачаў быў яго лаяць. Савельіч за яго заступіўся:

— І ахвота было не слухацца,—гаварыў ён сярдзіта,—вярнуўся-б на заезджы двор, напіўся-б чаю, адпачываў-бы сабе да раніцы, бура-б заціхла, паехалі-б далей. І куды спяшаемся? Не на вяселле-ж едзем!?

Савельіч гаварыў праўду. Што было рабіць? Снег так і валіў. Каля кібіткі падымалася гурба. Коні стаялі, апусціўшы галаву і часамі ўздрыгвалі. Фурман хадзіў кругом і ад няма чаго рабіць наладжваў вупраж. Савельіч бурчэў; я глядзеў ва ўсе бакі, спадзяючыся ўбачыць хоць адзнаку жыла[1] ці дарогі, але нічога не мог заўважыць апрача мутнага кружэння мяцеліцы. Раптам убачыў я нешта чорнае.

— Эй, фурман!—закрычаў я,—глядзі: што там такое чарнеецца?

Фурман стаў углядацца.

— А бог яго ведае, барынь,—сказаў ён, сядаючы на сваё месца.—Воз не воз, дрэва не дрэва, а здаецца, што варушыцца. Напэўна, або воўк або чалавек.

Я загадаў ехаць на незнаёмы прадмет які ў той-жа час і стаў рухацца нам на сустрач. Праз дзве хвіліны мы параўняліся з чалавекам.

— Гэй, добры чалавек!—закрычаў яму фурман.—Скажы, ці не ведаеш, дзе дарога?

— Дарога то тут; я стаю на цвёрдай палосе,—адказваў падарожны, ды што толку?

— Паслухай, мужычок,—сказаў я яму,—ці ведаеш ты гэту старану? Ці не возьмешся ты давесці мяне да начлегу?

— Старана мне знаёмая,—адказваў падарожны,—дзякуй богу сходжана і з'езджана ўдоўж і ўпоперак. Ды бач, якая пагода: якраз саб'ешся з дарогі. Лепей тут затрымацца ды перачакаць, а ну-ж буран сціхне ды неба праясніцца: тады знойдзем дарогу па зорках.

Яго спакойны адказ падбадзёрыў мяне. Я парашыў ужо, аддаўшы сябе боскай волі, начаваць сярод стэпу, як раптам падарожны сеў рухава на передок і сказаў фурману:

— Ну, дзякуй богу, жыло недалёка; заварачвай направа, ды едзь.

— А чаму ехаць мне направа?—запытаў фурман з нездаваленнем.—Дзе ты бачыш дарогу? Нябось: коні чужыя, хамут не свой, паганяй, не стой.

Фурман, здавалася мне, казаў праўду.

— На самай справе,—сказаў я:—чаму думаеш ты, што жыло недалёка?

— А таму, што вецер адтуль дыхнуў,—адказваў падарожны,—і, я чую, дымам запахла; мусіць, вёска блізка.

Кемлівасць яго і тонкасць чуцця мяне здзівілі[1]. Я загадаў фурману ехаць. Коні цяжка ступалі па глыбокім снягу. Кібітка ціха пасоўвалася; яна то ўз'язджала на гурбы, то скідалася ў канавы і пераваливалася то на адзін то на другі бок. Гэта падобна было на плаванне судна па бурным моры. Савельіч ахаў, штохвіліны штурхаючыся ў мае бакі. Я закрыўся ў кібітцы, захінуўся ў футра і задрамаў, закалыханы спевамі буры і ціхай яздой

[1] Жыло—мясцовае слова, якое азначае населенае месца, вёску.

[1] Невядомы падарожны, з якім сустрэўся Грынёў, быў сам Пугачоў Емельян Іванавіч- выдатны правадыр сялянскай рэвалюцыі Пугачоў жыў з 1744 па 1775 г. (*Заўвага рэд.*).

*Пераклад К. ШАВЕЛЯ.*

Рыс А ВОЛКАВА.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

СТУДЗЕНЬ 1937 г. № 1

ЦАНА 30 кап.



# ЗАГАДНІ

1.

Шмат на ёй іголак,
Але ўсе без вушак.

2.

Тысячы брацікаў звязаны,
Адным поясам падпяразаны.

3.

Адзін голасна чытае,
Двое ў кніжку паглядае,
Двое трэціх слухае,
А чацверты—нюхае...

4.

Вось вам новая задача:
Не арэх я і не куля,
А як крышаць, кожны плача...
Хто-ж, рэбята, я?



*Па дне мора ходзіць адважны вадалаз. Знайдзіце яго на гэтым рысунку.*

5.

Не шкадуюць мяне, мнуць,
У печ гарачую кладуць.
А як вымуць, дык нажом
Будуць рэзаць за сталом.

6.

Ні мора, ні зямля,
Караблі не плаваюць,
Бо нельга.

7.

Што без ног бяжыць,
Без рук стучыць.

8.

Карова бяжыць.
Скура ляжыць.

9.

Ляжыць, маўчыць,
Як памрэ, дык зараве.

10.

Сяду вярхом,
Не ведаю на ком,
Знаёмага сустрэну,
Зараз саскочу.



Леў *(з клеткі). Які дзіўны маленькі леў! Проста непаразуменне адно!*

Пудэль *(гледзячы на льва). Што за страшэнны пудэль! Каму ён такі патрэбен?!*

Адгадкі знайдзіце сярод наступных слоў: *шапка; вада і лёд; шыпулькі на ёлцы; цыбуля; лёд вясною; хлеб; вецер; рот, вочы, вушы і нос; балота; сноп.*

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ    Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА    Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна    25000 экз.    Зак. № 49.    Акт № 31    Галоўлітбел № 9.